# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 4 (2198) 24 студзеня 1991 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 8 кап.


**Дарагі замежны чытач! Калі гэты нумар газеты трапіць у твае рукі, магчыма, патухнуць вогнішчы на вуліцах Вільні, разыдуцца варагуючыя бакі і знікнуць умацаванні вакол будынка Вярхоўнага Савета Літвы. Але не патухне ў сэрцах людскіх боль за тыя ахвяры, што прынесла народу Літвы ноч 13 студзеня 1991 года. І бясcільна будзе біцца думка: як магло дайсці да таго!**

**Не пераказваем падзеі, бо пра іх за мяжой ведаюць не менш, чым у нас. Хацелі б толькі пазнаёміць нашых суайчыннікаў з рэакцыяй Вярхоўнага Савета Беларускай ССР на трагічныя падзеі ў Літве. Яна была неадназначнай — ад крайняй асцярожнасці да катэгарычных, няўзважаных меркаванняў. Апазіцыя БНФ прыняла сваю рэзалюцыю з рэзкім асуджэннем прымянення ваеннай сілы ў Літве. Калі Вярхоўныя Саветы іншых рэспублік выступілі ўжо з заявамі, беларускі парламент толькі рашыў паслаць групу з сямі дэпутатаў на чале з Нілам Гілевічам у Вільню з даручэннем: пабачыць на свае вочы, а магчыма і разабрацца на месцы ў прычынах канфлікта, які закончыўся ўмяшаннем узброеных сіл, каб пасля гэтага выказаць сваё стаўленне, даць палітычную ацэнку таму, што здарылася. 17 студзеня адбылося бурнае абмеркаванне падзей у Літве.**

**Ніжэй друкуем выступленне на сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР народнага дэпутата Н. ГІЛЕВІЧА.**

**(Заяву Вярхоўнага Савета БССР чытайце на 2-й стар.).**

# ПРАЛІТАЙ КРЫВІ ДАРАВАННЯ НЯМА

Шаноўны прэзідыум, паважаныя дэпутаты! Перш за ўсё я хачу выказаць пэўнае здзіўленне прапановай Старшыні Вярхоўнага Савета Мікалая Іванавіча Дзямянцея — нічога не абмяркоўваць па літоўскай сітуацыі. Маўляў, дэлегацыя ад Прэзідэнта з'ездзіла ў Літву, ва ўсім разабралася, і больш гаварыць няма пра што. Я разумею падтрымку залы, неабходнасць іменна неадкладна пагаварыць па гэтым пытанні, якое ўсіх нас хвалюе і проста не дасць нам спакойна працаваць і разглядаць іншыя пытанні.

Наша дэлегацыя прыехала ў Вільню к вечару. Мы — на жаль, частка дэлегацыі — паспелі яшчэ пабываць у Вярхоўным Савеце, сустрэцца і пагаварыць з намеснікам Старшыні і Сакратаром Вярхоўнага Савета, з міністрам аховы здароўя і з некаторымі дэпутатамі. Назаўтра было пахаванне [illegible]р, і на гэта пайшоў амаль увесь дз[illegible] — з ранку да вечара, паколькі і мы прымалі ўдзел у пахавальным рытуале.

Тым не менш, мы ўчора паспелі спаткацца з работнікамі Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Літвы, а вечарам прыняць удзел у пасяджэнні Вярхоўнага Савета Літо[illegible]й рэспублікі, дзе нашай дэлегацыі б[illegible] дадзена слова. Выступіў на гэтым пасяджэнні кіраўнік дэлегацыі, выказаў ад імя нашага Вярхоўнага Савета адносіны да падзей, тое, што можна было сказаць за некалькі прадастаўленых хвілін.

Вельмі цяжка пераказаць уражанні, якія ўсе мы і кожны з нас прывезлі. Я спадзяюся, што апрача мяне выступяць і члены афіцыйнай дэлегацыі, і дэпутаты, якія не ўваходзілі ў афіцыйную дэлегацыю, але — таксама пабывалі[illegible]этыя дні ў Вільнюсе. Маё першае ўра[illegible]не— гэта ненатуральнасць, нейкая недарэчнасць, уродлівасць самой гэтай сітуацыі, а іменна таго, што мы ўбачылі. Гэтыя абаронча збудаванні з магутных бетонных блокаў вакол будынка Вяр[illegible]ўнага Савета, барыкады на вуліцах, [illegible] вядуць да Вярхоўнага Савета, усе гэтыя загароджы, завалы, сцены. Гэтаксама і вогнішчы, якія гараць дзень і ноч, каля якіх грэюцца, якімі вечарамі асвятляюцца, і вогнішчы з узброенымі людзьмі каля афіцыйных будынкаў у Вільнюсе, танкі каля тэлевежы, бронемашыны на ўзбочынах. І тая варажнечая непрымірымасць, якая адчувалася паўсюдна. Усё гэта, паўтараю, здаецца нейкай вялікай ненатуральнасцю, недарэчнасцю ў горадзе, які з'яўляецца адным са старажытных цэнтраў культуры ў нашай краіне, у тым ліку, можа быць, перш за ўсё, калыскай нашай беларускай культуры.

Я ўспамінаю выступленне Прэзідэнта Гарбачова 14 снежня вечарам па тэлебачанню на сесіі Вярхоўнага Савета ў Маскве. У мяне ўжо тады было ўражанне, што мне не даводзілася раней слухаць такой неперaканаўчай прамовы Прэзідэнта, як гэта. У мяне было ўражанне, што палітыка нашай краіны—і ўнутраная, і міжнародная—як бы правалілася ў ней-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**



**На Каляды свяшчэнніку з Нью-Йорка Полу МОАРУ уручана Ганаровая грамата Вярхоўнага Савета БССР, якою лідэр вядомай амерыканскай дабрачыннай арганізацыі «Сіціхоўп індастры» ўдастоены за актыўную дзейнасць па аказанню дапамогі беларускім дзецям, што пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.**

**Уручаючы вышэйшую ўзнагароду рэспублікі, Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Мікалай Дзямянцей падкрэсліў, што сваім прыкладам Пол Моар паказаў, як можна рэальна дапамагчы дзецям, якіх напаткала вялікая бяда.**

**НА ЗДЫМКУ: Пол МОАР (у цэнтры) на прэс-канферэнцыі адказвае на пытанні журналістаў.**

**(Матэрыял аб знаходжанні Пола Моара ў Беларусі змешчаны на стар. 3).**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

# АД «ПОЛАЦАКА» ДА «АРАЎ-ПАРКУ»

Неабходна адзначыць, што эмігранцкая беларусазнаўчая навука нямала зрабіла ў галіне даследавання жыцця і творчасці Скарыны і Багушэвіча, пра што сведчаць публікацыі ў «Запісах» Нью-Йоркскага інстытута беларускай навукі і мастацтва, асобныя кнігі і, у прыватнасці, фундаментальная бібліяграфічная праца доктара Вітаўта Тумаша «Пяць стагоддзяў Скарыніяны», якая летась пабачыла свет у Нью-Йорку. Застаецца толькі шкадаваць, што пра гэтыя выданні, як і ўвогуле пра жыццё беларускай эміграцыі, яе навуку, прозу, паэзію, драматургію, мастацкі пераклад, музыку, выяўленчае мастацтва і шмат іншае, мала што ведаюць нават нашы навукоўцы, ужо не кажучы пра так званага «масавага» чытача. Ды, здаецца, лёд кранаецца. Ва ўсякім разе наш Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР мае намер у самы бліжэйшы час прыступіць да аб'ектыўнай навуковай распрацоўкі праблем беларускай эміграцкай літаратуры, крытыкі і літаратуразнаўства.

Наладжваць нармальныя культурныя і дзелавыя сувязі з нашымі зарубежнымі суайчыннікамі, як гэта, дарэчы, робяць суседзі, вывучаць іх гісторыю, культуру, навуку — пачынаць гэта, на добры толк, трэба было гадоў 30—40 назад. І тады б сяму-таму не мроіўся ў кожным эмігранце вораг і здраднік. І ў такім разе, магчыма, многія рэчы (русіфікацыя, дэнацыяналізацыя, нараджэнне культаў і кульцікаў) мы разгледзелі б і штосьці зрабілі б нашмат раней, а не цяпер, на схіле XX стагоддзя. Пачытайце беларускія эміграцкія выданні 50—70-х гадоў. Што турбавала нашых суайчыннікаў: закрыццё беларускіх школ, скарачэнне выданняў на беларускай мове, сляпая залежнасць ад таго, што сёння называюць «цэнтрам»...

І хіба ж гэта на бяду — мець справу з разумнымі, талковымі людзьмі, у якіх за плячыма пэўны вопыт у сферы навукі, культуры, бізнесу, гандлю, абслугоўвання і г. д., і якія да таго ж з'яўляюцца тваімі землякамі, размаўляюць на тваёй мове, любяць тваю радзіму і жадаюць ёй толькі дабра? Пытанне не такое ўжо і рытарычнае, для беларусаў, прынамсі... Але вернемся на XIX сустрэчу...

Чарнобыльскі боль... Драматызм сённяшняга дня Беларусі... Непрадказальнасць заўтрашняга... Пра гэта так ці інакш ішла гаворка ў кожным выступленні, і кожны аратар заклікаў прысутных ратаваць Бацькаўшчыну ад чарнобыльскай бяды. Кранулі душу словы прадстаўніка Кліўлендскай хрысціянскай дабрачыннай фундацыі Джорджа Коўэна, які не з'яўляецца беларусам па паходжанню і які заявіў аб гатоўнасці сваёй арганізацыі аказаць дапамогу ахвярам Чарнобыля.

З трыбуны XIX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі выказваліся нараканні ў адрас урада Беларусі, які занадта доўга марудзіў і не звяртаўся да міжнароднай супольнасці з просьбай аб дапамозе ў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Больш таго, некаторыя прамоўцы з трывогай падкрэслівалі, што гэта належным чынам не зроблена і да цяперашняга часу. У выніку многія жыхары Канады, ЗША, іншых краін не ўсведамляюць рэальных маштабаў трагедыі і не могуць прыняць удзелу ў аказанні дапамогі.

З вялікай увагай былі заслуханы выступленні Ю. Хадыкі аб эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў сённяшняй Беларусі і А. Белага, які зачытаў прывітанне ад Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і расказаў аб мэтах і задачах гэтай арганізацыі.

У скандэнсаванай форме найбольш істотныя думкі і меркаванні ўдзельнікаў XIX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі знайшлі сваё адлюстраванне ў рэзалюцыі, кожны пункт якой мае непасрэднае дачыненне да Беларусі. Таму ёсць сэнс прывесці гэты дакумент без скарачэнняў.

**«Мы, удзельнікі 19-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амерыкі, зьехаўшыся са Злучаных Штатаў, Канады, Беларускай ССР, Беласточчыны, Віленшчыны, Англіі, Францыі, Заходняй Нямеччыны ў беларускае селішча Полацак у горадзе Кліўленьдзе, штат Агаё, ЗША, заслухаўшы прывітаньні ад Прэзыдэнта Джорджа Буша, Кангрэсу Злучаных Штатаў, прадстаўнікоў мясцовых уладаў ды ад беларускіх арганізацыяў, выслухаўшы выступленьне кангрэсменкі Мэры Роўз Оўкер, урачыста дэкляруем:**

**1. Рабіць захады, каб дзяржаўныя і прыватныя сэктары заходніх краінаў аказалі гуманітарную дапамогу пацярпелым ад чарнобыльскай радыяцыі на Беларусі, як гэта звычайна робіцца ў выпадках вялікіх катастрофаў, імкнуцца адроджваць нацыянальную культуру, хрысьціянскую мараль і агульначалавечыя вартасьці.**

**2. Зьвярнуцца з просьбай ад імя беларускіх грамадаў у ЗША і Канадзе да Кангрэсу ЗША і Парляманту Канады, каб у Амэрыку й Канаду былі прынятыя квоты імігрантаў зь ліку жыхароў найбольш заражаных мясцовасьцяў чарнобыльскай зоны Беларусі.**

**3. Падтрымваць і далей дзейнасьць Беларускага Народнага фронту, сьціраваную на ратаваньне жыхарства ад чарнобыльскай радыяцыі, на ратаваньне беларускае нацыі ад культурнага заняпаду, да якога давяла аднапартыйная сыстэма.**

**4. Рабіць захады для пабудовы коштам амэрыканскіх і канадзкіх фондаў анкалягічнага шпіталя ў Беларусі, у якім лячыліся-б ахвяры чарнобыльскай радыяцыі ды ў якім працавалі-б таксама і лекары з Амэрыкі й Канады.**

**5. Спрыяць усімі магчымымі спосабамі эканамічным і гандлёвым сувязям паміж амэрыканскімі, канадзкімі ды іншымі заходнімі фірмамі, з аднаго боку, і прыватнымі прадпрыемствамі Беларусі, з другога.**

**6. Спрыяць пашыраньню й замацоўваньню дыпляматычных сувязяў Злучаных Штатаў Амэрыкі і Канады зь Беларускай Рэспублікай, Вярхоўны Савет, якое абвесьціў 27 ліпеня сёлета Беларусь сувэрэннай дзяржавай.**

**7. Падтрымваць справу як мага больш шырокага навуковага, культурнага і турыстычнага абмену паміж Паўночнай Амэрыкай і Беларусяй, прыезду ў Злучаныя Штаты й Канаду беларускіх студэнтаў на навуку, спэцыялістаў рознага профілю, у тым ліку сельскагаспадарчага, на практыку, моладзі на азнаямленьне з жыцьцём Беларусаў Амэрыкі й Канады.**

**8. Мы падтрымваем ініцыятыву аргкамітэту згуртаваньня «Бацькаўшчына» ў Менску дзеля аб'яднаньня Беларусаў сьвету, каб супольна спрыяць, «кажучы словамі аргкамітэту са «Звароту да Беларусаў сьвету», «нацыянальнаму адраджэньню ўсяго беларускага народу, палітычнаму і эканамічнаму сувэрэнітэту Беларусі».**

**9. Мы вітаем намаганьні ў колах беларускага грамадзтва, сьціраваныя на рэалізацыю Закона аб дзяржаўнасьці беларускае мовы, які ўвайшоў у сілу ўчора, 1-га верасьня 1990 году.**

**10. Мы зварачаемся з просьбай да ўладаў Беларускай ССР, каб было спынена накладаньне мыта на дазымэтры, якія жыхары Рэспублікі дастаюць ад сваіх суродзічаў з-за мяжы.**

**11. Мы выказваем непакой з прычыны наростаньня антыбеларускай акцыі на Беласточчыне, якая выяўляецца ў хлусьлівай прэсавай кампаніі ды ў паленьні цэркваў і нішчэньні помнікаў беларускай культуры. Нас таксама трывожаць выпадкі частага прападаньня ў дарозе да адрасатаў у БССР і Польшчы беларусаведных публікацыяў, у тым ліку зборнікаў мастацкае літаратуры і навуковых артыкулаў, рэлігійных выданьняў.**

**12. Мы поўнімся надзеяй, што працэс дэмакратызацыі ў Беларусі будзе паглыбляцца й замацоўвацца, спрыяючы палепшаньню эканамічнага дабрабыту й культурнага росквіту Беларускага народу ды ўзмацненьню мірнага супрацоўніцтва паміж народамі Беларусі, Злучаных Штатаў Амэрыкі і Канады».**

А як ацэньваюць вынікі і ход XIX сустрэчы яе непасрэдныя ўдзельнікі? Менавіта з такім пытаннем я звярнуўся да сваіх субяседнікаў.

**Вячаслаў СТАНКЕВІЧ—кіраўнік беларускай секцыі радыё «Свабода» (Мюнхен):** «XIX сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі пакідае самае светлае ўражанне. Адметнасць яе ў тым, што ўпершыню ў ёй прынялі ўдзел прадстаўнікі БССР. Спадзяюся, што ва ўмовах вашай перабудовы і пашырэння дэмакратыі такія кантакты будуць развівацца і надалей».

**Архіепіскап МІКАЛАЙ (Таронта):** «Наша сустрэча мела на мэце актывізацыю сувязяў з Бацькаўшчынай, пошукі агульнай мовы з вамі, прадстаўнікамі Беларусі. Я лічу, што сёння, у час перабудовы і большае свабоды, мы павінны і можам знаходзіць шляхі да лучнасці на будучыню і сумесна ачысціць нашу мову. Мяне не радуе стан беларускай мовы ў царкве. Трывожыць тое, што рымска-каталіцкая царква няўхільна пашырае свой уплыў на Беларусі і тым самым паланізуе частку беларускага насельніцтва. Хацелася б, каб пры нашай г[illegible]ымцы родная мова атрымала годнае месца ў храмах Бацькаўшчыны. Я ведаю, што зараз у Менску рыхтуецца да выдання пераклад Святога пісання на беларускую мову. Было б добра, каб перакладчыкі арыентаваліся не на расейскі тэкст, а на ангельскі пераклад Джэмс, зроблены ў пачатку XVII стагоддзя. На мой погляд, гэты пераклад стаіць найбольш блізка да арыгінала. Са свайго боку, я быў бы гатовы даць адпаведныя кансультацыі перакладчыкам.

Мы адабраем Закон аб беларускай мове, які пачаў дзейнічаць з верасня. Мы падтрымліваем Беларускі народны фронт «Адраджэнне», чыя дзейнасць скіравана на дасягненне поўнай незалежнасці і дабрабыту нашага народа.

Я моцна перажываю бяду, што навалілася на наш край у выніку чарнобыльскай катастрофы. Многія звяртаюцца да мяне з просьбай аб паратунку. Мы, вядома, не можам дапамагчы кожнаму, але робім усё магчымае, каб наладзіць збор сродкаў для дапамогі нашым людзям. У даны момант мы хочам набыць «Скэнэр» (ультрагукавы тамограф) коштам каля 70 тысяч долараў і перадаць яго на Бацькаўшчыну.

Мы ўважліва сочым за грамадска-палітычнымі падзеямі на Радзіме і вельмі не хацелі б, каб там дайшло да канфрантацыі, да братазабойства. Наш народ і так праліў занадта шмат крыві. Ніхто не ведае, колькі людзей злажылі свае галовы ў Курапатах, ніхто не ведае, колькі такіх Курапатаў на нашай шматпакутнай зямлі.

Я шчыра жадаю, каб наш народ меў надзею на будучыню, каб знайшоў разумнае выйсце са складаных сітуацый, куды ён трапіў не па сваёй волі, а па віне суседзяў.

Ад усяго сэрца я зычу беларускаму народу трываласці, моцы, веры ў лепшае, веры ў Бога, надзеі на выжыванне і росквіту, як у часы Вялікага княства Літоўскага».

**Мікола ГАНЬКО (Таронта):** «Два гады назад у Таронта адбылася XVIII сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая, на маю думку, стала ступенькай ці падрыхтоўчым этапам да нашай сённяшняй сустрэчы. Тады з дапамогай беларусаў Беласточчыны нам удалося наладзіць кантакт з Бацькаўшчынай.

Як суарганізатар гэтай сустрэчы, я нясу адказнасць за яе паспяховае правядзенне, за нашу супольную працу і павінен сказаць, што я больш чым задаволены вынікамі нашага сходу.

Мы пазнаёміліся з прадстаўнікамі з БССР, з іх думкамі і меркаваннямі аб становішчы спраў на Беларусі. Мы прыйшлі да агульнай высновы, што паправіць жыццё ў Беларусі можна толькі агульнымі намаганнямі, толькі ў цесным супрацоўніцтве ўсіх зацікаўленых бакоў. Важную ролю пры гэтым павінна адыграць пазітыўная інфармацыя аб усім, што адбываецца ў рэспубліцы.

Не толькі я асабіста, а і ўся наша беларуская калонія ў Канадзе душой і сэрцам разам з беларускім народам. Мы шлём яму паклон і зычым вылечыць яго фізічныя і духоўныя раны, стацца гордым і раўнапраўным народам сярод народаў свету і перастаць, нарэшце, быць нізкапаклоннікам вялікіх і моцных».

**Леанід КАЗЫРА.**

**Працяг. Пачатак у №№ 2, 3.**



Першыя заняткі пачаліся ў акадэміі менеджэраў і сацыяльных педагогаў, створанай на базе Мінскага інстытута культуры. У акадэміі два заснавальнікі — Фонд развіцця малых прадпрыемстваў і Фонд сацыяльнай рэабілітацыі інвалідаў. Галоўная мэта — падрыхтоўка спецыялістаў, якія здолелі б ва ўмовах рынку змагацца за інтарэсы маладых людзей, хто не ўмее пастаяць за сябе. Тут вучаць мастацтву нестандартнага пошуку рашэнняў у вострых жыццёвых сітуацыях.

**НА ЗДЫМКАХ:** член праўлення ўсесаюзнага клуба «Што! Дзе! Калі!» Барыс БУРДА (у цэнтры) праводзіць са слухачамі спаборніцтва па папулярных інтэлектуальных гульнях; у дзелавой гульні заняты ўсе, ідзе інтэлектуальная работа, якая выключае шпаргалкі і падказкі.

Фота А. НІКАЛАЕВА.



